# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 13(742) ● 8 красавіка 1994 г. ● Цана 25 руб.

## Агульны сход Акадэміі навук Беларусі

ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ:

# «УРАД ПАВІНЕН ПРЫНЯЦЬ УСЕ МЕРЫ, КАБ НАВУКА РАЗВІВАЛАСЯ»

### (З ВЫСТУПЛЕННЯ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА НА АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ АКАДЭМІІ НАВУК)

Калі прэзідэнт Акадэміі навук Леанід Міхайлавіч Сушчэня запрасіў мяне прыняць удзел у рабоце гадавога сходу акадэміі, сустрэцца з вамі, то гэта, шчыра кажучы, супала і з маім жаданнем паўдзельнічаць у абмене думкамі з такім прадстаўнічым атрадам нашай інтэлігенцыі, якім з'яўляюцца вучоныя.

Я ўпэўнены, што, нягледзячы на ўсе нашы цяжкасці, мы павінны як мага болей клапатліва і паважліва ставіцца да людзей навукі, да інтэлігенцыі ўвогуле. Гэта той найдалікатнейшы слой, які аказвае рашаючы ўплыў на прагрэс ва ўсіх сферах жыцця, узбагачае грамадства духоўна і маральна.

Вопыт гісторыі паказвае, што гаспадарчая разруха можа быць прыпынена і ліквідавана за лічаныя гады. Але для пераадолення разрухі навуковай, культурнай бывае недастаткова жыцця некалькіх пакаленняў.

У нас да разрухі не дайшло і, я ўпэўнены, не дойдзе. Але берагчы навуку, культуру трэба.

Мы гэта разумеем. І хаця ва ўрада вялікае мноства клопатаў, яно падтрымлівала і будзе далей падтрымліваць і матэрыяльна, і маральна людзей навукі, стваральныя творчыя сілы нашага народа, без чаго немагчымы ні паспяховае станаўленне дзяржаўнасці, ні забеспячэнне спакою і згоды ў грамадстве.

Неабходна перш за ўсё, канешне, паскорыць правядзенне рыначных рэформаў. Прававая база для гэтага ў нас створана, складваюцца рыначныя інфраструктуры, ідзе трансфармацыя дзяржаўнай уласнасці.

З мэтай найхутчэйшага стварэння канкурэнтнага асяроддзя, актывізацыі вытворчасці ўрад прымае канкрэтныя меры па ажыццяўленню праграмы прыватызацыі, зацверджанай Вярхоўным Саветам.

Ёсць рэальныя магчымасці ўжо ў бягучым годзе не толькі выйсці на ўзроўні прыватызацыі, азначаныя праграмай, а гэта 20 працэнтаў ад вартасці асноўных фондаў, але і істотна перавысіць гэтую лічбу, асабліва ў частцы прыватызацыі прадпрыемстваў сферы паслуг.

Асаблівы акцэнт будзе зроблены ўрадам на правядзенне буйнамаштабнага акцыяніравання дзяржаўнай уласнасці з удзелам іншаземнага капіталу як з бліжняга, так і далёкага замежжа.

Міжнародныя фінансавыя арганізацыі ацэньваюць гэтыя галоўныя складаемыя эканамічнай палітыкі ўрада як прымальныя на дадзеным этапе. Па ацэнках Міжнародных экспертаў, калі наша рэспубліка будзе прытрымлівацца выбранага курсу, то пачынаючы ўжо з 1995 года магчымы прырост вытворчасці, і гэта супадае з нашымі ацэнкамі.

Стратэгія рыначных пераўтварэнняў патрабавала прынцыповай змены курсу ў галіне прамысловай палітыкі.

Урадам распрацавана спецыяльная Праграма структурнай перабудовы прамысловасці. Рэалізацыя гэтай праграмы дазволіць у бліжэйшыя 5—7 год рэканструіраваць у першую чаргу апрацоўчыя галіны і зрабіць іх прадукцыю канкурэнтаздольнай.

Пры гэтым на дзяржаўную падтрымку могуць разлічваць толькі перспектыўныя і жыццёва важныя галіны. У якасці такіх прыярытэтных галін вызначаны станкабудаванне, электроніка, прыладабудаванне, вытворчасць камп'ютэраў і абсталявання сродкаў сувязі, фармацэўтычная прамысловасць і прамысловасць палімерных і канструкцыйных матэрыялаў. Для іх прадугледжваецца больш спрыяльны падаткавы і крэдытны рэжым.

На працягу 1994 года раз/арнуцца работы па ўсіх ключавых праектах структурнай перабудовы прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Пачынаецца рэалізацыя і шэрагу праектаў, арыентаваных на насычэнне ўнутранага спажывецкага рынку, развіццё імпартзамяшчальных вытворчасцей і вытворчай інфраструктуры. Найбуйнейшыя з іх — будаўніцтва комплексаў глыбокай перапрацоўкі нафты па тэхналогіях заходніх фірм з прыцягненнем замежных крэдытаў, стварэнне і пастаноўка на вытворчасць дызельных рухавікоў шматмэтавага прызначэння і шэраг іншых.

А цяпер аб тым, што вас больш за ўсё, напэўна, хвалюе. Хачу паведаміць, што ўрад мае намер у ранг першачарговых мер паставіць неабходнасць павелічэння фінансавання навукі.

Навука ж наша аказалася сёння ў гранічна цяжкім становішчы. Скарачэнне бюджэтных асігнаванняў, амаль поўнае спыненне заказаў на даследаванні і распрацоўкі з боку прадпрыемстваў паставілі многія навуковыя калектывы на мяжу выжывання. На фоне даходаў удачлівых камерсантаў прыкметна знізіўся прэстыж навуковай дзейнасці. Рэзка зменшыўся прыток у навуку маладога папаўнення, паскорыліся тэмпы старэння навуковых кадраў.

Урад бачыць гэтыя небяспечныя працэсы і ўсведамляе іх разбуральнае ўздзеянне на навукова-тэхнічны патэнцыял рэспублікі.

Мы ўжо вышукалі пэўныя магчымасці вам дапамагчы і будзем далей іх вышукваць. Узнялі заработную плату навуковым работнікам.

Сур'ёзную магчымасць аказання дапамогі навуцы я бачу ў выкарыстанні часткі сродкаў за кошт крэдытаў міжнароднага валютнага фонду і ўдзелу вучоных у асваенні тых крэдытных ліній, якія адкрываюцца некаторымі банкамі.

У дакладзе прэзідэнта Акадэміі навук змяшчалася шмат просьбаў аб павелічэнні асігнаванняў на навуку і, напэўна, у нечым слушных просьбаў. Але, на жаль, мы не пачулі, якая ж будзе аддача.

Што ж тычыцца фундаментальных даследаванняў, то яе, канешне, у тую ж мінуту быць не можа. Гэтыя даследаванні трэба фінансаваць з бюджэту.

Але я сёння быў здзіўлены, што не вырашана пытанне аб тым, каб паўпрацэнта сродкаў, што выдзяляюцца акадэміі, аддаць вам на сацыяльныя патрэбы. Канешне, гэта трэба выправіць. Уносьце прапановы. Пераглядзім таксама і некаторыя падаткі, якія зараз плоціць акадэмія.

Асабліва балючае пытанне — гэта жыллё. Тут цяжка нешта змяніць. Вы ведаеце, што асноўнай крыніцай фінансавання жыллёвага будаўніцтва сёння з'яўляюцца крэдыты. На бясплатнае жыллё могуць разлічваць толькі інваліды, шматсямейныя і тыя, хто жыве за рысай беднасці.

І ўсё ж я думаю, што нам ёсць сэнс прыняць асобную пастанову па развіццю навукі, у якой вызначыцца ў пытанні забеспячэння жыллём вучоных, знізіць працэнты на выдадзеныя крэдыты, пайсці на бюджэтнае крэдытаванне.

Якія прыярытэты мы бачым сёння ў навуцы? Да такіх прыярытэтаў могуць быць аднесены тыя, якія арыентаваны на сацыяльнае развіццё, забяспечваюць вырашэнне задач рэканструкцыі і тэхналагічнага пераасначэння, ...і фарміраванне новага навукаёмістага ядра ў прамысловасці, спрыяюць захаванню і заваяванню пэўных пазіцый у сферы навуковых даследаванняў, інтэграцыі эканомікі рэспублікі ў сусветныя міжгаспадарчыя сувязі.

У адпаведнасці з гэтымі крытэрыямі можна вызначыць наступныя галоўныя кірункі навукова-тэхнічнага прагрэсу ў рэспубліцы: ахова здароў'я насельніцтва, ахова навакольнага асяроддзя, у тым ліку навуковае забеспячэнне пераадолення вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, рэсурсазберажэнне, асабліва паліўна-энергетычных рэсурсаў, развіццё навукаёмістых тэхналогій і забеспячэнне канкурэнтаздольнасці прадукцыі, нацыянальна-культурнае адраджэнне.

На гэтых праблемах і канцэнтруюцца бюджэтныя сродкі ў рамках рэспубліканскіх навукова-тэхнічных праграм і асобных праектаў.

Пры гэтым патрабаванні да ўзроўню даследаванняў і распрацовак павінны быць істотна павышаны. Гэта тлумачыцца тым, што Беларусь, як суверэнная дзяржава, выжыве толькі ў тым выпадку, калі зможа істотна павялічыць свой экспартны патэнцыял.

Павышэнне экспартнага патэнцыялу рэспублікі — гэта тая задача, на вырашэнні якой у бліжэйшыя гады будзе правярацца здольнасць навукі, у тым ліку акадэмічнай, вырашаць актуальныя праблемы.

Калі Акадэмія навук здолее прапанаваць вытворчасці канкурэнтаздольныя на сусветным узроўні распрацоўкі, то яна забяспечыць сабе будучыню і аўтарытэт на многія гады. У процілеглым выпадку наша прамысловасць трапіць у залежнасць ад іншаземных ліцэнзій, а прыкладная навука будзе прымушана апусціцца да прымітыўных дробных работ, а то і проста згіне. Гэтыя абставіны акадэмія павінна мець на ўвазе, фарміруючы стратэгію развіцця прыкладных распрацовак.

Новае кола праблем, пастаўленых жыццём перад навукай, патрабавала сур'ёзнага рэфармавання ўсёй навукова-тэхнічнай сферы. Гэта датычыцца як арганізацыі навуковай дзейнасці ў інстытутах, так і ў цэлым структуры навукова-тэхнічнага патэнцыялу рэспублікі.

Выкананнем навукова-тэхнічных работ у нас занята больш за 300 навукова-даследчых, праектна-канструктарскіх і тэхналагічных арганізацый, вузаў і НВА. Многія з іх у свой час былі створаны для распрацоўкі агульнасаюзных праблем і ў новых умовах аказаліся перад неабходнасцю нанова знайсці сваё месца ў навуцы рэспублікі.

Урад дапамог многім з іх пераарыентаваць тэматыку на рэспубліканскія патрэбы. Былі выдзелены дадатковыя бюджэтныя сродкі, сфарміраваны шэраг навукова-тэхнічных праграм, такіх, як «Белоптыка», «Белэлектроніка», «Белсувязьтэхніка». Камітэт па навуцы і тэхналогіях, што ствараецца, павінен будзе прадоўжыць работу ў гэтым кірунку, маючы на ўвазе, што ў перспектыве навукова-тэхнічны прагрэс усё больш будзе вызначацца інавацыйнай актыўнасцю суб'ектаў гаспадарання, якія павінны будуць фарміраваць уласную стратэгію развіцця.

Наша бяда заключаецца ў тым, што не было такога цэнтра, які б каардынаваў усю навуковую праблематыку. Паглядзіце, што атрымалася. Мноства саюзных інстытутаў проста спынілі сваё існаванне як навуковыя цэнтры. Яны знайшлі вельмі простую форму выжывання. Здаецца дзве трэці будынка пад камерцыйныя структуры, што дазваляе дырэктару інстытута зусім спакойна сядзець у сваім крэсле, мець легкавую машыну і бязбедна існаваць, нічога фактычна не робячы.

А каб быў у нас Камітэт па навуцы, мы змаглі б або прымусіць гэтыя інстытуты заняцца патрэбнай нам тэматыкай, або спыніць іх існаванне.

Што ж тычыцца Акадэміі навук, то сканцэнтраваны ў яе інстытутах інтэлектуальны патэнцыял дазваляе паспяхова вырашаць многія буйныя навуковыя і тэхнічныя праблемы, а яго захаванне адносіцца да найважнейшых стратэгічных задач рэспублікі ў пераходны перыяд.

Аднак гэта задача і самой акадэміі. У цяперашніх умовах разлічваць толькі на дапамогу ўрада было б, напэўна, няправільна. Сама акадэмія павінна актыўна ўключыцца ў вырашэнне задачы выжывання, знайсці найменш балючыя і найбольш эфектыўныя формы адаптацыі да рыначных рэформаў.

Аблічча акадэміі вызначаюць школы, што ў ёй склаліся. І мы вельмі добра разумеем, што, як правіла, найбольш таленавітыя вучоныя, занятыя фундаментальнымі даследаваннямі, зусім не прыстасаваныя да рынку з яго жорсткімі законамі. Трэба абараніць іх ад кан'юнктурных ваганняў, даць магчымасць засяродзіцца на сваёй працы.

Гэта павінна зрабіць сама акадэмія. Але вы не абражайцеся на мяне. Пакуль, на жаль, акадэмія паказвае сябе хутчэй як ведамства, чым як супольнасць вучоных. Над ёй навісаюць, у сілу аб'ектыўных прычын, хутчэй не навуковыя, а гаспадарчыя праблемы.

Адсюль ураўнілаўка пры размеркаванні бюджэтных сродкаў, калі і калектыў, што мае міжнароднае прызнанне, і другаразрадная лабараторыя фінансуюцца па колькасці супрацоўнікаў, а не па іх аддачы.

Інстытут, аддзяленне, ды і сама акадэмія маюць права на існаванне да той пары, пакуль яны дапамагаюць вучонаму рэалізаваць сябе. Калі ж іх гаспадарчыя інтарэсы ўступаюць у супярэчнасць з задачамі развіцця навукі, пачынае цярпець навука.

Адзіны выхад з гэтай сітуацыі — змяніць прынцыпы фінансавання фундаментальных даследаванняў. Сродкі на іх правядзенне павінны размяркоўвацца на конкурснай аснове для ажыццяўлення найлепшых праектаў, на падтрымку вядучых навуковых школ.

Другая важная задача акадэміі — ажыццявіць канверсію прыкладных даследаванняў і навучыцца гандляваць іх вынікамі. Вырашыць яе будзе няпроста па многіх прычынах. Гэта і адсутнасць сродкаў у заказчыкаў, і іх незацікаўленасць ва ўмовах найвастрэйшага дэфіцыту ўдасканальваць вытворчасць, і ўяўная нявыгаднасць укладваць сёння грошы ў навуку.

Даследаванні, што праводзіць акадэмія, служаць не толькі развіццю вытворчых сіл грамадства.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

# Агульны сход Акадэміі навук Беларусі

ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ:

## «УРАД ПАВІНЕН ПРЫНЯЦЬ УСЕ МЕРЫ, КАБ НАВУКА РАЗВІВАЛАСЯ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Найважнейшая задача нацыянальнай акадэміі — вывучэнне самой нацыі, палітычных, эканамічных, сацыяльных і іншых гуманітарных праблем народа Беларусі. На жаль, неабходна прызнаць, што многія гады гэтыя праблемы ў нас недаацэньваліся. І ў акадэміі развіццё Аддзялення гуманітарных навук, узровень яго даследаванняў сёння не адпавядаюць патрабаванням суверэннай дзяржавы. Між тым іх вырашэнне не менш важна для нацыі, для станаўлення суверэнітэту Беларусі, чым адкрыцці ў галіне фізікі, хіміі і іншых галін ведаў.

Таму яшчэ адной важнай задачай акадэміі на бліжэйшыя гады павінна стаць фарсіраванае развіццё гуманітарных даследаванняў, якія б забяспечвалі ўзмацненне нашага суверэнітэту. Трэба нанова пераасэнсаваць усю гісторыю Беларусі, істотна пашырыць тэматыку па юрыдычных, эканамічных і сацыялагічных навуках.

Вялікай дапамогі ад Акадэміі навук урад чакае ў адраджэнні беларускай мовы.

Вось тое кола праблем, канешне, далёкае ад паўнаты, якія трэба сёння вырашаць.

Але для гэтага неабходна захаваць у рэспубліцы спакой і згоду.

У гэтым выступленні я выказаў сваё бачанне праблем, якія сёння стаяць перад навукай. Пакідаючы гэту трыбуну, я яшчэ раз запэўніваю вас, што ўсе ва ўрадзе разумеюць: навуку нельга разбураць, навуцы трэба дапамагаць. Іншага, як кажуць, не дадзена. І калі урад хоча мець аўтарытэт, калі ён думае аб эканоміцы, а гэтым мы больш за ўсё занятыя, ён павінен прыняць усе меры, каб навука развівалася.

ЛЕАНІД СУШЧЭНЯ:

## «НАВУКА АКАЗАЛАСЯ АДКІНУТАЙ ДАЛЁКА НАЗАД»

### (З ДАКЛАДА ПРЭЗІДЭНТА АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ)

Сёння ў рабоце сесіі Агульнага сходу АНБ бяруць удзел Старшыня СМ РБ Вячаслаў Францавіч Кебіч, яго намеснік Міхаіл Іванавіч Дзямчук і намеснік старшыні ВС РБ Вячаслаў Мікалаевіч Кузняцоў. Мы рады іх прысутнасці і гатоўнасці абмеркаваць з намі праблемы навукі.

Дазвольце мне падзяліцца некаторымі ўражаннямі пра работу Акадэміі навук за справаздачны 1993 год. Ён быў цяжкі. Калі сёння аналізуеш жыццё акадэміі за гэты перыяд, складаны не толькі для нас, навукоўцаў, але і ў цэлым для нашага грамадства, для рэспублік былога Саюза, то бачыш, што працэсы, якія ідуць у эканоміцы і сацыяльна-палітычнай галіне, непазбежна адбіваюцца на ўсіх сферах жыцця, у тым ліку і на навуцы. Пытанне заключаецца ў тым, як у залежнасці ад гістарычных умоў размяркоўваюцца і матэрыяльна забяспечваюцца дзяржаўныя і грамадскія прыярытэты. У гэтым плане я хацеў бы адназначна сказаць, што з-за цяжкасцей, перш за ўсё эканамічнага і гаспадарчага парадку, навука ў ліку дзяржаўных прыярытэтаў аказалася адкінутай далёка назад. Не раз даводзілася гаварыць пра гэта і ў гэтых сценах, і пры сустрэчах з кіраўнікамі нашай рэспублікі. Сёння нашы магчымасці настолькі малыя, што ўзнікла небяспека зруйнавання інтэлектуальнага патэнцыялу рэспублікі і той навуковай інфраструктуры, якая стваралася дзесяцігоддзямі. Мы знаходзімся на грані страты ўсякай магчымасці забяспечваць навуковы працэс. З-за абмежаванасці бюджэтных асігнаванняў на фундаментальныя даследаванні мы стаім перад дылемай: любымі сіламі захоўваць тое, што маем, або свядома ісці на поўнае разбурэнне ўсяго створанага многімі пакаленнямі.

Сітуацыя надзвычай сур'ёзная. Гэтай зімой мы практычна знаходзіліся ў блакадных умовах — не было чым плаціць за ацяпленне і іншыя камунальныя паслугі, каб людзі маглі працаваць у больш-менш ніштаватых умовах, не было чым выплачваць у поўным аб'ёме зарплату, як гэта было ў лютым, не кажучы ўжо пра матэрыяльную базу навукі, якая мусіць своечасова абнаўляцца і г. д. Напрыклад, супрацоўнікі Батанічнага саду, каб выратаваць унікальныя калекцыі раслін у аранжарэях, якія назапашваліся дзесяцігоддзямі, арганізавалі кругласутачныя дзяжурствы, ставілі «буржуйкі» і палілі іх дровамі. Чым не блакадная карціна?

Таму сёння трэба разглядаць не толькі чыста навуковыя вынікі работы, якія, нягледзячы на цяжкасці, дастаткова значныя, але і тэндэнцыі — як сёння складаецца лёс навукі, дзе і ў якой ступені мы самі можам садзейнічаць хаця б мінімальнай стабілізацыі сітуацыі, недапушчэнню рэзкага спаду ўсёй навуковай дзейнасці. З другога боку, мы павінны думаць, як выкарыстаць тыя абмежаваныя магчымасці, якія мае наша дзяржава для падтрымання навукі. Як мы можам найбольш эфектыўна ўзаемадзейнічаць з іншымі блокамі навуковага патэнцыялу рэспублікі? А гэтыя ўзаемадзеянні, на мой погляд, недастатковыя, як з галіновай навукай, так і з вышэйшай школай. Вядома, ёсць адпаведныя пагадненні з Міністэрствам адукацыі і іншымі ведамствамі, але выконваюцца яны неэфектыўна. Гэта значыць, сёння па ўсіх гэтых накірунках патрэбна літаральна ваенная мабілізацыя, што адлюстроўвае суровасць цяперашніх абставін. Лозунг проста выжывання даўно ўжо сябе зжыў. Сёння трэба выжываць, эфектыўна дзейнічаючы і працуючы.

Некалькі ілюстрацый да таго, што сёння адбываецца ў нас у акадэміі. Па фінансаванню. Я лічу, што галоўнае пытанне — дзяржаўная падтрымка фундаментальнай навукі ва ўсіх яе формах: гэта і непасрэднае бюджэтнае фінансаванне, і фінансаванне адпаведных рэспубліканскіх навукова-тэхнічных праграм; фінансаванне па лініі Фонду фундаментальных даследаванняў для конкурснага адбору найбольш перспектыўных і актуальных работ, важных для навукі і практыкі рэспублікі; гэта і непасрэдны дзяржаўны заказ на шэраг распрацовак. І, нарэшце, гэта цэлы веер гаспадарча-дагаворных работ. Калі нават падсумаваць усе крыніцы фінансавання, то мы за апошнія тры гады маем тэндэнцыю да зніжэння ў 2,5 раза расходаў у нацыянальным бюджэце рэспублікі на навуковы сектар і навуковае абслугоўванне. Яшчэ ў 1991—1992 г. мы мелі на ўвесь навуковы сектар Беларусі каля 3 працэнтаў расходнай часткі бюджэту, а сёння — менш аднаго працэнта. Верагодна, гэта ўжо тая грань, за якой пачынаецца руйнаванне навуковага патэнцыялу, бо ў былым Саюзе навука мела каля 5 працэнтаў бюджэту, а мы спусціліся дзесьці да 0,89 працэнта. Я лічу, што калі мы сапраўды хочам пазбегнуць руйнавання структуры навуковага патэнцыялу рэспублікі, у т. л. і ў Акадэміі навук, неабходна ісці на павелічэнне затрат да 2,5—3 працэнтаў расходнай часткі бюджэту, прычым ісці хутка, інакш разбуральны працэс набудзе незваротны характар.

На 1994 год АНБ атрымала 23 мільярды рублёў бюджэтных асігнаванняў, потым урад па нашай просьбе дадаў яшчэ 4 мільярды. З іх 79 працэнтаў ідзе на зарплату і налічэнні на зарплату. На падаткі і на навуковае забеспячэнне застаецца ўсяго нічога. Практычна на абсталяванне, камунальныя паслугі і іншыя расходы сродкаў няма. Я даў фінансістам заданне пралічыць гіпатэтычны варыянт скарачэння, каб пры гэтым памеры бюджэту хоць ледзь-ледзь забяспечыць навуковы працэс. Аказалася, што нам трэба скараціць прыкладна 40—50 працэнтаў колькаснага складу акадэміі. Вось альтэрнатыва. Яна згубная. Ці можам мы пайсці на гэта? Працэс скарачэння ідзе і, верагодна, будзе ісці. За апошнія тры гады мы страцілі 30 працэнтаў колькаснага складу. Праўда, у 1993 годзе гэты працэс запаволіўся, і мы вырашылі, што пачынаем выходзіць з ямы. Але я думаю, што сістэма ўжо выйшла са стану раўнавагі, увайшла ў хістальны рэжым, і прагназаваць сёння амплітуду гэтага хістання вельмі складана.

Учора, пасля агульных сходаў аддзяленняў, на пасяджэнні прэзідыума абмеркаваны іх вынікі і, акрамя фінансавання (гэта самая вострая праблема), другой найбольш вострай праблемай мы назвалі дэмаграфію Акадэміі навук, дэмаграфічны склад нашых інстытутаў. Ідзе катастрафічнае старэнне кадраў. Пасля выбараў акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў мы крыху амаладзілі іх склад. Акадэмікі «сталі маладзейшымі» на 2 гады, і іх сярэдні ўзрост складае сёння 65 гадоў, а члены-карэспандэнты ў сярэднім «памаладзелі» на 1,3 года, і іх сярэдні ўзрост пасля выбараў складае 62 гады. Сярэдні ўзрост дактароў — 58 гадоў, кандыдатаў навук — 46 гадоў. Учора акадэмік С. А. Астапчык намаляваў вобразную карціну: «Мы ўжо адчапілі ад свайго цягніка вагон з моладдзю, а самі коцімся ў тупік». Гэта найсур'ёзнейшая праблема. Калі ў пачатку 90-х гадоў мы атрымлівалі з вну ў сярэднім каля 200 маладых спецыялістаў, а быў год, калі атрымалі і 400, то ў 1992 г. змаглі прыняць 37 чалавек, а ў 1993 г. — толькі 27. Вы самі разумееце, і нам раней было ясна, што пры захаванні гэтай тэндэнцыі к 2000 году мы будзем мець пустую або амаль пустую залу.

Катастрафічная сітуацыя і з сацыяльнай абароненасцю работнікаў навукі. Яны практычна адрэзаны ад забеспячэння жыллём. У нас сёння на чарзе 1435 сем'яў. У цэлым Акадэмія навук забяспечваецца жыллём з адставаннем на 2—3 гады, а для ўдзельнікаў вайны, інвалідаў, людзей, пакутуючых цяжкімі формамі захворванняў — 6—7 гадоў у дачыненні да гарадской чаргі. Практычна сёлета мы не атрымалі ніводнай капейчыны ні на ЖБК, ні на дзяржаўнае жыллёвае будаўніцтва і, такім чынам, хоць па плану нам выдзелена каля 2 тысяч кв. м дзяржаўнага жыллёвага фонду, ён не забяспечан адпаведным фінансаваннем.

Гэтай зімой мы вымушаны былі закрыць санаторый-прафілакторый з-за немагчымасці аплаты паліва для абагравання карпусоў. Толькі ў сакавіку ён узнавіць сваю работу. Зачыняюцца дзіцячыя садкі, многія сталовыя і буфеты. Людзі перайшлі на так званыя «ссабойкі», а вядома, што працэнт хворых на гастрыт і кішачна-страўнікавыя захворванні заўсёды быў вельмі высокі ў навуковых работнікаў, якія пастаянна за рабочым сталом, пастаянна заняты эксперыментамі, і ім няма калі «падбегчы» паесці. Але сёння магчымасць «падбегчы» паесці стала ім яшчэ і недаступнай. У сувязі з гэтым узнікае праблема медыцынскага забеспячэння. Мы ўсімі сіламі падтрымліваем нашу паліклініку, хаця для гэтага часта даводзіцца хадзіць на грані закону.

Прыгнятае адкрытае і скрытае беспрацоўе. Сёння, па дадзеных статыстычнай службы, сярод агульнай колькасці беспрацоўных Мінска навукоўцы складаюць каля 20 працэнтаў, але гэта толькі вяршыня айсберга. Калі ўлічыць «паўставачнікаў», «трэцьставачнікаў», людзей, якія ідуць у вымушаны адпачынак за свой кошт і г. д., то мы можам лічыць, што ступень занятасці навукоўцаў непасрэдна навуковымі даследаваннямі складае не больш 50 працэнтаў. Акрамя таго, людзі прыходзяць на работу маральна прыгнечаныя, не маючы перад сабой ніякай перспектывы на бліжэйшыя гады. Мы страчваем галоўным чынам маладых, найбольш здольных, нават з таго складу, які ўвайшоў у навуку і быў гатовы ісці гэтай дарогай усё жыццё. Мы страчваем найбольш мабільны, дзеяздольны кантынгент людзей.

Прэзідыум АНБ звяртаўся з просьбай ва ўрад рэспублікі, каб 0,5 працэнта нашых сціплых бюджэтных асігнаванняў дазволіць скарыстаць у сацыяльнай сферы. На жаль, станоўчага вырашэння гэтае пытанне не мела. Прэзідыум і аддзяленні працуюць з вялікай напругай, але справіцца з усімі гэтымі праблемамі нам не па сілах. Не магу сказаць, што ўрад адносіцца без увагі да нашых бед і просьбаў. Вячаслаў Францавіч Кебіч з вялікай гатоўнасцю ідзе насустрач праблемам навукі. Але калі паперы з яго станоўчымі рэзалюцыямі ідуць у адпаведныя міністэрствы, у апарат СМ, якія рэальна распараджаюцца рэсурсамі, яны практычна не выконваюцца. Верагодна, трэба ўзмацніць патранаж навуковай інфраструктуры не толькі АНБ, але і ўсяго навуковага патэнцыялу рэспублікі. Навуковы патэнцыял, побач з прыроднымі рэсурсамі, стаіць на першым месцы з пункту гледжання выжывання, развіцця і росквіту нацыі. Мяркую, што не ўсе гэта разумеюць нават на вельмі высокіх узроўнях. Гэтыя два кампаненты — прыродныя і чалавечыя рэсурсы — мы сёння павінны берагчы, як зрэнку вока. А ў гэтых кампанентах, груба кажучы, мазгавая састаўная — нумар адзін. І калі мы сёння гэты кампанент распылім, нават калі ён проста пераразмяркуецца ў камерцыйныя структуры і прадпрымальніцтва, то я думаю, мы стратэгічна прайграем.

На прафсаюзнай канферэнцыі, што нядаўна адбылася, працаўнікі калектыву акадэміі прынялі пастанову «Аб сацыяльна-эканамічным становішчы работнікаў Акадэміі навук» і прасілі яе давесці да ведама Агульнага сходу: «Лічыць нездавальняючым сацыяльна-эканамічнае становішча работнікаў АНБ як неадпаведнае ролі і значэнню фундаментальнай

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# Агульны сход Акадэміі навук Беларусі

*ЛЕАНІД СУШЧЭНЯ:*

## «НАВУКА АКАЗАЛАСЯ АДКІНУТАЙ ДАЛЁКА НАЗАД»

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стр.).

навукі ў жыцці рэспублікі. Канстатаваць рэзкае зніжэнне ўзроўню сацыяльнай абароненасці работнікаў навукі, што выказваецца ў нізкім ўзроўні заработнай платы і незабяспечанасці дастойных умоў працы і побыту». Мяркую, што далей чытаць не трэба. Першы пункт пастановы адлюстроўвае настрой калектыву Акадэміі навук у сацыяльнай сферы, ды і не толькі ў сацыяльнай, але і ў вытворчай, таму што для навукоўца яго побыт непарыўна звязаны з яго лабараторыяй, з яго рабочым сталом. Калі ён спакойны па дарозе дамоў, на працу, а таксама дома, то ён будзе эфектыўна працаваць за сваім рабочым сталом.

Наш неспакой не толькі пра ўнутраныя справы, пра ўзровень фінансавання, умовы працы. Мы разумеем, што не можам замкнуцца ў сваіх сценах. Вельмі актыўна прэзідыум і аддзяленні працавалі над падтрыманнем і развіццём знешніх сувязей. Яны развіваюцца па трох накірунках: з міжнароднымі навуковымі арганізацыямі і саюзамі, з навуковымі цэнтрамі СНД і іншых рэспублік былога Саюза і на ўсіх узроўнях унутры Беларусі. Унутры рэспублікі — паміж рознымі ведамствамі, якія маюць навуковы патэнцыял і запатрабуюць вынікі навуковых распрацовак, з буйнымі прадпрыемствамі, з аграрным сектарам, медыцынай, аховай здароўя і г. д. Праз гэтыя структуры і па непасрэдных каналах з кіраўніцтвам рэспублікі, Вярхоўным Саветам, Саветам Міністраў, іх аддзеламі, камісіямі і г. д. Не скажу, што тут усё ідзе гладка. Быццам бы паразуменне ёсць, але ёсць і шмат падспудных працэсаў, калі адчуваецца яўнае процідзеянне. Мяркую, што акадэмія трапіла ў сваю ўласную пастку, калісьці дабіўшыся, каб яе абвясцілі самакіруемай, незалежнай арганізацыяй. Але грошы мы хочам атрымліваць з дзяржаўнай кішэні і атрымліваем іх у нейкай ступені. Без іх мы проста загінулі б. Вось тут якраз мы і адчулі, што «самастойнасць і незалежнасць» маюць і адваротны бок. Я прасіў бы ўрад і Вярхоўны Савет пры ўсёй гэтай дэкларыраванай незалежнасці памятаць, што мы ўсё-такі з'яўляемся ведамствам, безумоўна, дзяржаўнай структурай нашай рэспублікі. Ад гэтага мы не адыходзілі і не адыдзем. Часам юрысты не могуць прымяніць да нас той ці іншы закон, яны пытаюцца: «Куды вас аднесці — да ведамаснай або да грамадскай арганізацыі?» Я адказваю: «Не сумнявайцеся, мы ведамасныя», а яны адказваюць: «Не. Па паперах вы не ведамства». Мне здаецца, гэтае становішча трэба выпраўляць, бо без кантакту з урадам, з Вярхоўным Саветам, без поўнага кантакту па ўсіх накірунках мы не можам дзейнічаць, не можам працаваць.

Ёсць і міжведамасныя шурпатасці. Мы не вельмі добра наладзілі сувязь з міністэрствамі адукацыі, аховы здароўя і іншымі ведамствамі. Дагэтуль не задзейнічаны Савет па каардынацыі навуковых даследаванняў. Патрабуецца больш актыўная работа па ўзмацненню сувязей з вну, перш за ўсё з універсітэтамі. Сілы Акадэміі навук слаба выкарыстоўваюцца для падрыхтоўкі маладых спецыялістаў.

ХАЦЕУ бы праінфармаваць Вячаслава Мікалаевіча Кузняцова, які тут прысутнічае, што мы часта не атрымліваем ніякага водгуку на заканадаўчыя ініцыятывы і прапановы, накіраваныя Акадэміяй навук у камісіі Вярхоўнага Савета. Акрамя таго, нам трэба акрэсліцца раз і назаўсёды з акадэміямі навук. Вы памятаеце, яшчэ калі ў гэтай зале выступаў М. С. Гарбачоў, я гаварыў пра небяспеку нараджэння мноства акадэмій навук, што хутка, як у некаторых дзяржавах Лацінскай Амерыкі, у нас будуць нават «шавецкія акадэміі». Няхай не крыўдуюць на гэта акадэміі, якія растуць сёння бы грыбы. У нас ёсць Нацыянальная Акадэмія навук, і мне здаецца, што няма пытання ў тым, каб яна і была цэнтрам засяроджання і кансалідацыі ўсіх інтэлектуальных сіл рэспублікі. У Нацыянальнай Акадэміі навук, каб стаць акадэмікам, трэба ісці дзесяцігоддзі, стварыць навуковую школу, назапасіць вялікі навуковы капітал. Вось тады чалавек прыходзіць да такога высокага звання. Не хачу выглядаць славалюбным і сказаць, што недастойныя людзі выбіраюцца ў іншыя акадэміі грамадскага характару. Там таксама шмат выдатных спецыялістаў, вялікіх прафесіяналаў, якія і ў нас з'яўляюцца членамі акадэміі. Але празмернае імкненне мець акадэмію ў кожным ведамстве дыскрэдытуе сам прынцып стварэння акадэмій як навуковых структур.

Мы доўга гаварылі пра тое, што нам патрэбны Савет па каардынацыі, што гэтаму савету трэба ўзяць у рукі каардынацыю ў галіне фундаментальных даследаванняў і наладзіць цесную сувязь з Камітэтам па навуцы і тэхналогіях, створаным пры Савеце Міністраў. Калі камітэт запрацуе, Савету па каардынацыі неабходна будзе трымаць цесны кантакт з гэтай дзяржаўнай структурай, дзейнасць якой будзе галоўным чынам накіравана на прыкладныя навукі. У гэтым накірунку яшчэ нямала нявырашаных пытанняў.

СЕННЯ, на жаль, не ідзе працэс кансалідацыі. Нягледзячы на нашу беднасць, ідзе стварэнне мноства паралельных структур. Часам нават дзівішся: ствараецца Міжнародны цэнтр нейкага гэткага накірунку, у той час як гэты накірунак выдатна распрацаваны ў Акадэміі навук. Хіба не бачылі тыя, хто стварыў гэтую новую структуру, што ў нацыянальнай інфраструктуры рэспублікі ўсё гэта ўжо ёсць. Мабыць, было б лепш укласці сродкі ў гатовую структуру, па-новаму мадыфікуючы і трансфарміруючы назапашаны патэнцыял, накіраваўшы яго на вырашэнне актуальных для рэспублікі задач. Напрыклад, стварылася арганізацыя «Белфармаграіндустрыя». Пэўна, патрэбная арганізацыя, праўда, я мала пра яе яшчэ ведаю. Але раптам яна стварае Цэнтр па вырошчванню лекавых раслін, а я ж яшчэ дзесяць гадоў таму гаварыў, што пастаўкі вострапахучай сыравіны ў рэспубліку будуць абмежаваны — гэта ўсё золата, валюта. Давайце будзем развіваць нашу нацыянальную базу, у нас жа шмат духмяных траў. Мы можам рабіць цудоўныя прыправы, вырошчваць лекавую сыравіну. Аднак праца ў гэтым накірунку ўвесь час тармазілася. Цэнтральны Батанічны сад АНБ ужо даўно мае сотні відаў апрабаваных, вырашчаных у многіх пакаленнях у нашых беларускіх умовах вострападарных і лекавых раслін. Але пра гэта быццам бы ніхто і не ведае. Ствараецца новая структура, якая будзе дзесьці падшукваць гаспадаркі і спрабаваць вырошчваць гэтыя расліны. Калі ж мы прапаноўвалі стварыць такія гаспадаркі, то зацікаўленыя міністэрствы і ведамствы чамусьці адмахнуліся. Дык давайце ж разумна падыходзіць да таго, што ў нас ужо напрацавана. Будзем так ставіць пытанне: расліны ў нас ёсць, база ў нас ёсць, спецыялісты ёсць, на гэта мы патрацілі 20—30 гадоў. Давайце ж зробім так, каб гэтая гатовая структура працавала больш эфектыўна і вырашала тыя задачы, што перад намі стаяць.

Дазвольце на гэтым закончыць. Мяркую, што абмеркаванне ўсіх праблем жыцця акадэміі прадоўжаць мае калегі. Я не спыняўся на навуковым баку дзейнасці нашага калектыву. Дэталёвая інфармацыя пра гэта змяшчаецца ў апублікаванай гадавой справаздачы. Пра гэта будзе сказана і ў выступленнях акадэмікаў-сакратароў аддзяленняў.

## З даклада Галоўнага вучонага сакратара прэзідыума Акадэміі навук Беларусі акадэміка *А. М. ГАНЧАРЭНКІ*

У 1993 годзе была склікана толькі адна сесія Агульнага сходу Акадэміі навук, на якой абмеркаваны вынікі дзейнасці акадэміі за 1992 год.

На сесіі былі заслуханы навуковыя даклады чл.-кар. В. А. Каваленкі «Нацыянальная самасвядомасць і мараль» і чл.-кар. А. В. Мацвеева «Геалогія і мінеральныя рэсурсы Беларусі».

На пасяджэннях прэзідыума заслуханы навуковыя даклады акад. А. Р. Мартыненкі пра новыя тэхналогіі ў энергазберажэнні і канцэпцыю развіцця атамнай энергетыкі ў рэспубліцы, чл.-кар. М. П. Касцюка «Аб'ектыўнае і суб'ектыўнае ў вывучэнні гісторыі Беларусі».

Прэзідэнт Акадэміі навук акад. Л. М. Сушчэня выступіў на пашыраным пасяджэнні прэзідыума з удзелам кіраўнікоў навуковых устаноў акадэміі з паведамленнем аб канцэпцыі развіцця навукі ў Рэспубліцы Беларусь. Матэрыялы гэтага пасяджэння былі выкарыстаны для падрыхтоўкі прапаноў, якія накіраваны ў Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, зацікаўленым міністэрствам і ведамствам.

На пасяджэннях прэзідыума разгледжаны пытанні аб доследна-канструктарскіх работах. Дынаміка паказчыкаў, якія характарызуюць доследна-канструктарскую дзейнасць, на жаль, мае адмоўны характар. З адзінаццаці самастойных арганізацый, якія дзейнічалі ў 1989 годзе, толькі чатыры захавалі свой юрыдычны статус. Астатнія ўведзены ў склад інстытутаў.

У той жа час трэба сказаць, што канструктарска-тэхналагічныя арганізацыі АНБ маюць шэраг створаных сумесна з інстытутамі унікальных тэхналогій і распрацовак, выкананых на высокім тэхналагічным узроўні. Яны выкарыстоўваюцца і могуць быць выкарыстаны ў многіх галінах народнай гаспадаркі і складаюць трывалую аснову для далейшага развіцця работ.

Усяго за 1993 год самастойнымі доследна-канструктарскімі арганізацыямі і адпаведнымі падраздзяленнямі інстытутаў выкананы работы агульным аб'ёмам 2873 млн. руб.

Аднак за апошнія гады адбылося рэзкае пагаршэнне эканамічных і іншых паказчыкаў работы доследна-канструктарскіх падраздзяленняў. Колькасць працуючых скарацілася за два гады ў 1,5—1,8 раза. Паменшыўся аб'ём работ у параўняльных цэнах. У агульным аб'ёме ўзрасла доля работ па заказах арганізацый і прадпрыемстваў, якія не ўваходзяць у сістэму Акадэміі навук Беларусі (у сярэднім да 70 працэнтаў), і значна зменшылася вага работ па развіццю асабістай доследна-эксперыментальнай базы (да 2—3 працэнтаў), а таксама доследна-эксперыментальнай базы навуковых устаноў (да 8—10 працэнтаў).

Абмеркаваўшы праблемы дзейнасці доследна-канструктарскіх арганізацый на сваім пасяджэнні 25 лістапада, прэзідыум даручыў спецыяльна створанай рабочай групе распрацаваць канцэпцыю дзейнасці канструктарскіх арганізацый у новых эканамічных умовах, у тым ліку абасноўваць мэтазгоднасць (або немэтазгоднасць) стварэння і прынцыпы арганізацыі навукова-тэхнічнага інавацыйна-укаранняльніцкага цэнтра АН Беларусі і іншых магчымых варыянтаў развіцця доследна-канструктарскай базы.

Заслухаўшы справаздачу Цэнтральнай навуковай бібліятэкі, прэзідыум абавязаў яе прыняць дзейсныя меры па больш эфектыўнаму выкарыстанню міжнародных сувязей у мэтах набыцця новай літаратуры і навуковай перыёдыкі, абмену інфармацыяй на магнітных і аптычных носьбітах. Прызнана неабходным распрацаваць канцэпцыю і рабочую праграму стварэння аўтаматызаванага навукова-інфармацыйнага цэнтра Акадэміі навук. Для выканання гэтага даручэння створана рабочая група.

У справаздачным годзе прэзідыум стварыў новыя ўстановы.

Дзеля павышэння эфектыўнасці выкарыстання навуковага патэнцыялу арганізацый прампляцоўкі «Сосны» створаны навукова-тэхнічны комплекс «Сосны» (АНТК «Сосны») у складзе Інстытута праблем энергетыкі, Інстытута радыяцыйных фізіка-хімічных праблем, Інстытута радыёэкалагічных праблем, навукова-тэхнічнага цэнтра «Нетрадыцыйная энергетыка і энергазберажэнне», Канструктарскага аддзялення з доследнай вытворчасцю і Інжынерна-тэхнічнага цэнтра з захаваннем за імі правоў юрыдычнай асобы.

Але не ўсё там ідзе так добра, як задумвалася, таму ў гэтым годзе прыйдзецца зноў займацца гэтым комплексам.

У інтарэсах больш накіраванага развіцця ў Акадэміі навук фундаментальных і прыкладных даследаванняў у галіне малой хіміі прэзідыум стварыў Хіміка-тэхналагічны цэнтр, якому даручыў распрацоўку навуковых і тэхналагічных асноў працэсаў малатанажнай хіміі, тэхналогій навукаёмістай хімічнай прадукцыі, а таксама адпрацоўку тэхналагічных параметраў атрымання і выпуск доследных партый прадукцыі на аснове распрацовак інстытутаў Аддзялення хімічных і геалагічных навук АН Беларусі і іншых устаноў рэспублікі.

У 1993 годзе адбылося чарговае прысуджэнне прэмій Акадэміі навук Беларусі. Па прапановах аддзяленняў акадэміі і прэміяльнай камісіі прэзідыум прысудзіў 14 прэмій Акадэміі навук 24 супрацоўнікам акадэміі і іншых устаноў. Заснаваны прэміі для студэнтаў.

У справаздачным годзе працягвалася навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва АН Беларусі з навуковымі ўстановамі замежных краін. Сумесныя даследаванні праводзіліся па 156 праблемах і асобных тэмах, у якіх было занята 36 інстытутаў АН Беларусі і каля 160 навукова-даследчых замежных арганізацый.

У 1993 годзе акадэмія накіравала ў замежныя камандзіроўкі ў 42 краіны 785 вучоных і спецыялістаў. Вучоныя і спецыялісты АН Беларусі ўдзельнічалі ў рабоце XXIV Генеральнай Асамблеі Міжнароднага савета навуковых саюзаў у Чылі (акад. Л. М. Сушчэня), VII Еўрапейскага геалагічнага кангрэса ў Францыі (акад. Р. Г. Гарэцкі), Еўрапейскай канферэнцыі па праблемах моцнасці і бяспекі інжынерных канструкцый ў Вялікабрытаніі (акад. М. С. Высоцкі), XVI кангрэса Міжнароднай камісіі па оптыцы ў Венгрыі (акад. А. М. Ганчарэнка), Міжнароднай канферэнцыі «Сельскагаспадарчыя і прыродаахоўныя аспекты глебавай структуры» у Польшчы (акад. І. І. Ліштван), XVII Кангрэса па генетыцы ў Вялікабрытаніі (акад. Л. В. Хатылёва), сімпозіума па біізатропных асяроддзях у Фінляндыі (акад. Ф. І. Фёдараў), XI Міжнароднага кангрэса славістаў у Славакіі (акад. І. Я. Навуменка), Міжнароднага сімпозіума па медыка-біялагічных наступствах катастрофы на ЧАЭС у Германіі (акад. Я. Ф. Канапля).

У 1993 годзе для кансультацый, выканання эксперыментальных работ і з мэтай азнаямлення АН Беларусі наведалі 472 замежныя вучоныя і спецыялісты.

Супрацоўнікі акадэміі прымалі актыўны ўдзел у дзейнасці міжнародных эканамічных і навукова-тэхнічных арганізацый.

У справаздачным годзе АН Беларусі была прынята ў Міжнародны савет навуковых саюзаў у якасці нацыянальнага члена і падпісала пагадненні аб навуковым супрацоўніцтве з Лон-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# Агульны сход Акадэміі навук Беларусі

## З даклада Галоўнага вучонага сакратара прэзідыума Акадэміі навук Беларусі акадэміка А. М. ГАНЧАРЭНКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

данскім Каралеўскім Таварыствам, Каралеўскай Шведскай акадэміяй навук, Акадэміяй навук Кубы, Егіпецкай акадэміяй навуковых даследаванняў і тэхналогіі, Славенскай акадэміяй навук і мастацтваў, а таксама пагадненне аб стварэнні Міжнароднай асацыяцыі акадэмій навук.

Некалькі слоў аб камерцыйнай і прадпрымальніцкай дзейнасці ў Акадэміі навук. У апошнія гады ў сістэме Акадэміі навук атрымала развіццё камерцыйная і прадпрымальніцкая дзейнасць. Усяго за ўстановамі акадэміі зарэгістравана больш за 200 суб'ектаў гаспадарання. Сярод іх 6 з сумеснай, 25 з дзяржаўнай, астатнія з недзяржаўнай формай уласнасці.

Выдаючы дазвол на стварэнне той ці іншай структуры, прэзідыум АНБ спадзяваўся, што яны будуць дадатковай крыніцай фінансавання навукова-даследчых работ. Але на практыцы атрымалася зусім іншае. Іх адлічэнні сімвалічныя і не могуць разглядацца ў якасці падтрымкі ці дапамогі ў развіцці даследаванняў.

Згодна з даручэннем урада ад 3 студзеня 1994 года Акадэмія навук павінна была ў тэрмін да 1 сакавіка прадставіць у Дзяржэканомплан звесткі, якія характарызуюць дзейнасць навукова-даследчых устаноў, а таксама іх месца і ролю ў развіцці прыярытэтных напрамкаў навукі і тэхнікі, структурнай перабудове і тэхналагічным аднаўленні прамысловасці. Па стану на 9 сакавіка з двух аддзяленняў навук (Аддзяленне фізікі, матэматыкі і інфарматыкі і Аддзяленне фізіка-тэхнічных праблем машынабудавання і энергетыкі) толькі па аднаму інстытуту даслалі запатрабаваныя звесткі. У Аддзяленні біялагічных навук прадстаўленне матэрыялаў затрымалі 3 інстытуты, у аддзяленнях хімічных і гуманітарных навук — па аднаму. Усе гэтыя матэрыялы павінны былі паступіць у прэзідыум АН Беларусі не пазней 25 лютага, каб яшчэ заставаўся час для іх апрацоўкі.

Сёння як ніколі ад нас патрабуецца актыўная мэтанакіраваная дзейнасць па рэфармаванню навукі, таму што спробы захаваць статус кво ўжо не толькі не палепшаць становішча, а паступова набліжаюць той узровень страт, пасля якога магчымасць аднаўленчага працэсу робіцца малаверагоднай.

## З даклада акадэміка-сакратара Аддзялення біялагічных навук Л. В. ХАТЫЛЁВАЙ

У Аддзяленні біялагічных навук 10 навукова-даследчых устаноў з агульнай колькасцю супрацоўнікаў на канец 1993 года 1905 чалавек, з іх навуковых супрацоўнікаў — 1062 чалавекі (85 дактароў і 472 кандыдаты навук).

Фундаментальныя даследаванні ў рамках 5 праграм: «Флора і фауна», «Прадукцыйнасць раслін», «Рэгуляцыя функцый», «Метабалічны гамеастаз», «Біятэхналогія».

Некаторыя работы вяліся па праграме «Прыродавыкарыстанне», а таксама па найважнейшых праблемах прыродазнаўчых навук — малекулярнай біялогіі, радыёбіялогіі, лесазнаўства.

Прыкладныя даследаванні выконваліся галоўным чынам па навукова-тэхнічных праграмах.

Інстытутам эксперыментальнай батанікі вызначаны асноўныя накірункі змен у структуры прыроднага расліннага покрыву Беларусі, дадзена ацэнка стану лясных экасістэм пад уплывам тэхнагенезу ў зонах з крызіснай экалагічнай сітуацыяй і распрацавана экалагічнае зандзіраванне Салігорскага прамысловага раёна і Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка.

Па той жа праблеме Інстытутам заалогіі распрацаваны прынцыпы і навуковыя асновы прагназіравання стану гаспадарча каштоўных і біяцэнатыпічных найбольш важных груп і відаў водных і наземных жывёл, распрацаваны структура і правілы вядзення Дзяржаўнага кадастра жывёльнага свету Беларусі.

Гэтымі двума інстытутамі сумесна з іншымі навуковымі арганізацыямі рэспублікі вызначаны сучасны стан, вывучана біялогія рэдкіх і знікаючых відаў жывёл і раслін, дадзена іх колькасная характарыстыка. Гэта знайшло адлюстраванне ў другім выданні Чырвонай кнігі Рэспублікі Беларусь.

У Інстытуце генетыкі і цыталогіі шляхам увядзення гена азотфіксацыі ў атрыманы раней гібрыд Азотабактэра і Псеўдамонас сканструяваны новы штам бактэрый, на аснове якога створаны бактэрыяльны прэпарат, які ахоўвае расліны ад карнявых гнілей. Па выніках палявых выпрабаванняў на ячмені і яравой пшаніцы, праведзеных сумесна з БелНДІ аховы раслін, даказана яго высокая эфектыўнасць.

Інстытутам фізіялогіі ў доследах на жывёлах розных відаў устаноўлены заканамернасці развіцця дыферэнцыяванай рэакцыі вегетатыўных гангліяў і ўцягненне ў рэгуляцыю залоз унутранай сакрэцыі ва ўмовах уздзеяння на арганізм тэмпературнага і эмацыянальнага фактараў.

У Інстытуце фотабіялогіі атрыманы вынікі, якія падтрымліваюць і развіваюць канцэпцыю аб важнай рэгуляцыйнай ролі напружаных структурных станаў мембран, створаных электрахімічным і асматычным патэнцыяламі і мембранным бялковым каркасам.

У Інстытуце біяхіміі праведзены даследаванні механізмаў узаемадзеяння простагладзінаў розных класаў з мікрасамальнымі мембранамі печані пацукоў у норме і пры алкагольнай інтаксікацыі. Адзначана нармалізуючае ўздзеянне простагладзінаў на пашкоджаныя мембраны.

У Інстытуце мікрабіялогіі ахарактарызаваны ферментныя сістэмы родакокаў, якія ўдзельнічаюць у дэградацыі фталатаў і хлорбензолаў. Выяўлена плазміда, якая нясе ген спецыфічнай дэгалагеназы, сканструяваны унікальны штам з павышанай здольнасцю да дэградацыі хлорбензолаў. Дадзеныя вынікі пашыраюць магчымасці выкарыстання гэтых бактэрый для атрымання каштоўных прамежкавых прадуктаў метабалізму і ачысткі сцёкавых вод шэрагу хімічных вытворчасцей.

Адным з асноўных напрамкаў даследаванняў аддзялення з'яўляецца вырашэнне навуковых праблем, звязаных з наступствамі Чарнобыльскай катастрофы. Практычна ўсе інстытуты аддзялення выконваюць заданні, якія прадугледжаны навуковым раздзелам Дзяржаўнай праграмы пераадолення вынікаў катастрофы на ЧАЭС, галаўной установай па якому Саўмін рэспублікі зацвердзіў Інстытут радыёбіялогіі.

Вынікам работы вучоных у 1993 г. з'явілася абагульненне вынікаў навуковых даследаванняў па чарнобыльскай праблеме за перыяд з 1986 па 1993 год. Гэта дазволіла падрыхтаваць і выдаць Нацыянальны даклад «Чарнобыльская катастрофа, яе вынікі і шляхі пераадолення на тэрыторыі Беларусі».

У 1993 г. вучонымі аддзялення праведзена вялікая работа па вызначэнню дзяржаўнай стратэгіі ў вобласці экалогіі і прыродавыкарыстання. У прыватнасці, прызнаны непрыймальным падыход да ацэнкі радыёэкалагічных, медыка-біялагічных і іншых наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, што было выкарыстана экспертамі сусветнага банка ў прадстаўленым імі дакладзе, прысвечаным экалагічным праблемам рэспублікі.

Побач з гэтым інстытуты аддзялення працягвалі сістэматычныя даследаванні дынамікі паводзін радыенуклідаў у розных экасістэмах, міграцыі іх па трафічных ланцугах, ацэнкі шкоднага ўздзеяння малых доз радыяцыі на раслінныя і жывёльныя арганізмы.

У якасці асобных найбольш значных вынікаў, атрыманых у Інстытуце радыёбіялогіі, можна адзначыць наступныя: выяўлена парушэнне цячэння прэнатальнага антагенезу з дыскарэляцыяй развіцця органаў і сістэм плода, узрастаннем частаты храмасомных перабудоў у клетках мужчынскіх палавых органаў, выяўлена змяненне ўзроўню праліферацыі лімфацытаў і сінтэзу цытакінаў імунакампетэнтнымі клеткамі, што абумоўлівае механізм фарміравання імунадэфіцытаў і парушэнне цячэння вострых і хранічных запаленчых працэсаў ва ўмовах апрамянення. Інстытутам эксперыментальнай батанікі ўстаноўлена, што паступленне радыёізатопаў цэзія-137 і 134 у расліны прыроднараслінных комплексаў у апошні час скараціліся ў 4—5 разоў у параўнанні з першымі гадамі пасля аварыі на ЧАЭС, а паступленне стронцыя-90 узрасло ў столькі ж разоў, што звязана са зменай рухомасці гэтых ізатопаў у глебе.

Інстытутам лесу на насенным матэрыяле сасны звычайнай з Палескага радыёэкалагічнага запаведніка зарэгістравана 11 генных мутацый, у той час як аналіз насення з чыстых тэрыторый не выявіў ніякіх мутацыйных змен.

Інстытутам заалогіі паказана стабілізацыя колькаснага ўзроўню радыенуклідаў у большасці груп жывёл. Ахарактарызаваны асноўныя тэндэнцыі фарміравання фаўністычных комплексаў у зонах адчужэння і адсялення. Паказаны рост напружанасці эпідэміялагічнай і эпізатычнай сітуацыі ў зоне эвакуацыі.

У Інстытуце генетыкі і цыталогіі ўстаноўлена павелічэнне ў 4 разы частаты стабільных структурных пашкоджанняў храмасом у мышэй, якія ўтрымліваліся на забруджаным радыенуклідамі стацыянары. Гэтыя пашкоджанні могуць перадавацца спадчынна і выяўляцца ў выглядзе захворванняў у наступных пакаленнях.

Інстытуты аддзялення аддаюць належную ўвагу выкарыстанню вынікаў навуковых даследаванняў у народнай гаспадарцы рэспублікі.

Інстытутам эксперыментальнай батанікі распрацаваны і перададзены Дзяржкамэкалогіі РБ і праектным арганізацыям навуковыя рэкамендацыі па пашырэнню і рацыяналізацыі сучаснай сеткі асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый.

Інстытутам лесу перададзены (Мінлесгаспу, Міністэрству аховы здароўя і Дзяржкамчарнобылю) метадычныя рэкамендацыі па вызначэнню доз апрамянення і часовыя санітарныя правілы для работнікаў лясной гаспадаркі, занятых на работах ва ўмовах радыяцыйнага забруджвання, а таксама інструкцыя па арганізацыі і вядзенню радыяцыйнага маніторынгу лесу. Распрацаваны і выпрабаваны на лесапажарным палігоне новы хімічны састаў для тушэння і прадухілення лясных пажараў.

Мікрабіялагічны метад ачысткі сцёкавых вод ад хімічных забруджвальнікаў, прапанаваны Інстытутам мікрабіялогіі, знайшоў выкарыстанне на Магілёўскім вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно».

Інстытут генетыкі і цыталогіі працягваў работу па ўкараненню новых гатункаў раслін (бурак, памідор, соя) і штамаў мікраарганізмаў (різаплан, різафіл) у сельскагаспадарчую практыку.

Цэнтральным Батанічным садам прапанаваны асартымент драўняных і хмызняковых раслін, устойлівых да прамысловых выкідаў, для азелянення зоны Новалукомльскай ГРЭС. Пашыраны вытворчыя плошчы рэкамендаваных садам востра-араматычных, лекавых і высокабялковых інтрадукаваных раслін.

Вынікі работ Інстытута радыёбіялогіі выкарыстаны Дзяржкамчарнобылям і Галоўгідраметам РБ пры распрацоўцы крытэрыяў прагнозу радыёэкалагічнай сітуацыі для водных сістэм Беларусі і рэкамендацый па ахове вод ад радыёактыўнага забруджвання.

Выкарыстанне ў хірургічных аддзяленнях 10-й клінічнай бальніцы г. Мінска рэкамендацый Інстытута фізіялогіі на прафілактыцы інфіцыравання брушыны праз кішачны шоў дазволіла ў 2—3 разы знізіць летальнасць і колькасць гнойна-запаленчых ускладненняў пасля аперацый на страўнікава-кішачным тракце.

Інстытутамі аддзялення выконвалася 162 гаспадарчых дагаворы, у тым ліку рэспубліканскіх — 124. Абаронена 8 доктарскіх і 21 кандыдацкая дысертацыі. Надрукавана 12 манаграфій, 416 артыкулаў і 478 тэзісаў дакладаў. Атрымана 35 аўтарскіх пасведчанняў на вынаходкі і патэнтаў, а таксама 12 дадатных рашэнняў.

Адсутнасць неабходнага фінансавання ўскладніла сувязі вучоных аддзялення з замежнымі калегамі. Аднак інстытуты ажыццяўлялі навуковыя кантакты ў форме сумесных даследаванняў, стажыровак, удзелу ў міжнародных нарадах з вядучымі навуковымі цэнтрамі Расіі, Украіны, Польшчы, Балгарыі, Венгрыі, ФРГ, Швецыі, Вялікабрытаніі, ЗША, Італіі, Іспаніі, Японіі, Кітая і іншых краін. Няма сумнення, у сучасных складаных умовах міжнароднае супрацоўніцтва вучоных неабходна ўзмацняць. Гэта адзін з асноўных шляхоў павышэння тэарэтычнага і метадалагічнага ўзроўняў нашых даследаванняў, утрымання кваліфікацыі вучоных на сусветным узроўні.

Аддзяленне праводзіла разнастайную работу па навукова-метадычнаму кіраўніцтву навуковымі ўстановамі, аб'яднанню творчых сіл на вырашэнні актуальных фундаментальных праблем біялагічнай навукі, прыкладных праблем сельскай гаспадаркі, медыцыны і аховы навакольнага асяроддзя.

Для аб'яднання намаганняў інстытутаў аддзяленнем быў аб'яўлены конкурс на выкананне комплексных міжінстытуцкіх праектаў па актуальных праблемах біялагічнай навукі.

## КОНКУРСЫ, ВАКАНСІІ

*Рэдакцыя газеты «Навіны Акадэміі навук Беларусі» аб'яўляе конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады намесніка рэдактара.*

*Тэрмін конкурсу — 1 месяц з дня апублікавання аб'явы.*

*Звяртацца па адрасу: г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1. Тэл. 39-46-12.*

• • •

Інстытут малекулярнай і атамнай фізікі АНБ аб'яўляе конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады загадчыка лабараторыі фатонікі малекул (доктар навук).

Тэрмін конкурсу — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.

Даведкі па тэлефоне: 39-53-41.

• • •

Прэзідыум АН Беларусі аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад дацэнта (англійская мова, без вучонай ступені) і старшага выкладчыка (англійская мова, кандыдат навук) кафедры замежных моў вучэбнага цэнтра падрыхтоўкі навуковых кадраў АН Беларусі.

Тэрмін падачы заяў — месяц з дня апублікавання аб'явы.

Наш адрас: 220072, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 66. Аддзел навуковых кадраў. Тэл. 39-56-03.

«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51

Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 6.04.94 г. Зак. 1024.

Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123

Пры передруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.